# Як жыве польская моладзь.

**Цяжкое становішча працоўнае моладзі.**

Перад комсамолам Польшчы выплываюць усё больш сур'ёзныя заданьні. Становішча рабочай і сялянскай моладзі становіцца горшым. Буржуазія вышуквае ўсялякія магчымасьці, каб пазбавіць правы моладзі, паменшыць яе заработак і павялічыць працоўны дзень. Тое, што моладзь Польшчы атрымоўвае ў сучасны момант (15—50 кап. у дзень), дае ёй толькі поўгалоднае існаваньне пры працоўным дні ў 9-10 гадзін, які ў провінцыях цягнецца яшчэ даўжэй.

Нечага і казаць, што нават на існуючыя на паперы правілы аховы працы юнакоў, у тым ліку і на адпускі, зусім не зьвяртаецца ўвагі.

Вось становішча моладзі, якая яшчэ ня выкінута з фабрык і заводаў. Большасьць-жа маладых рабочых—бяз працы; у дробнай прамысловасьці гэты процант асабліва вялікі.

Армія беспрацоўных маладых рабочых, якая дасягла ў сучасны момант 75.000 чалавек, у большасьці не атрымоўвае дапамогі (па статуту моладзь да 18 г. дапамогаю не карыстаецца).

Тая-ж, калі ня большая, беднага пануе сярод сялянскай моладзі. Яна робіць клясавае разьмежаваньне і пашырае рэволюцыйныя процэсы ў асяродзьдзі сялянскай моладзі: гэта—адбітак руху, які прыкмячаецца сярод дарослых польскіх сялян.

Цяпер польскі комсамол напружвае ўсе свае сілы дзеля заваёвы працоўнай моладзі.

**Весьці моладзь на барацьбу.**

Ня гледзячы на нявіданыя зьдзекі, усё большая колькасьць моладзі імкнецца ў комсамол. Трэба, аднак, адзначыць, што наш уплыў сярод польскай рабочай моладзі, асабліва ў буйнай прамысловасьці, яшчэ слабы.

Шлях, які вядзе да пазбаўленьня гэтага недахопу, есьць, перш за ўсё, *сэкцыі моладзі пры профсаюзах*. Бяз сэкцыі моладзі ня можа быць праведзена шырокая і неабходная барацьба за паляпшэньне быту моладзі.

*Да гэтага часу толькі невялікая частка комсамольцаў знаходзіцца ў профсаюзах; большасьць рабочай моладзі неорганізавана.* Гэта супраціўленьне ўступленьню ў профсаюзы трэба зламаць, даводзячы, што калі цяпер профсаюзы не зьяўляюцца фактычнымі кіраўнікамі барацьбы, дык толькі таму, што кіраўніцтва імі (профсаюзамі) знаходзіцца ў руках згоднікаў. Будуючы і падтрымоўваючы організаваньне сэкцый моладзі пры профсаюзах, мы павінны імкнуцца перабудаваць іх у *організацыі для экономічнае барацьбы, а ня толькі асьветнае, як гэтага дабіваюцца правадыры профсаюзаў—згоднікі з буржуазіяй.*

За 1925 г. мы значна пасунуліся ў барацьбе за паляпшэньне стану працоўнае моладзі. *Наш Саюз правёў цэлы шэраг зябастовак, здолеўшы, напрыклад, у забастоўцы варшаўскіх мэталістых адыграць ролю кіраўніка моладзі. Наша кампанія за ахову працы моладзі, барацьба супроць працягненьня часу практыкі фабрычнага вучнёўства і за дапамогу для беспрацоўнай моладзі, заваявалі нам даверра мас моладзі.* Але гэта толькі першыя крокі. *Нас далей чакае большая, сур'ёзная праца.* Наша організацыя павінна быць ня толькі першай у барацьбе за экономічнае паляпшэньне моладзі, але і *пачынальнікам гэтай барацьбы і яе кіраўніком.*

Нашы фабрычна-заводзкія ячэйкі, колькасьць якіх без перарыву павялічваецца, павінны стаць фактычнымі кіраўнікамі моладзі на прадпрыемствах. *Толькі такім чынам мы зможам вырваць моладзь з-пад уплыву згоднікаў і пераканаць яе ў тым, што комсамол зьяўляецца сапраўдным абаронцам яе інтарэсаў.*

**Адваяваць моладзь у згоднікаў.**

Рабочыя і сяляне згодніцкіх партый стараюцца перацягнуць моладзь у свае шэрагі. У апошні час мы прыкмячаем узмацненьне руху сярод згодніцкіх організацый моладзі. Польская Партыя Соцыялістых стварыла пад фірмаю „Тур" (Таварыства Рабочага Унівэрсытэту) організацыю моладзі, якая нядаўна склікала свой зьезд. Вырас і ўзмацніўся таксама згодніцкі саюз сялянскай моладзі, які налічвае 30 тысяч сяброў. Паднялася праца буржуазных і згодніцкіх партый сярод моладзі другіх нацыянальнасьцяй.

Пры дапамозе пропаганды нашых лёзунгаў і даводжаньня фактамі, што толькі Комуністычная Партыя Польшчы і КСМП зьяўляюцца барацьбітамі за соцыялізм, за вызваленьне рабочых і сялян, *мы прыцягнем рабочую моладзь з лягэру соцыял-здраднікаў пад нашы сьцягі. Нашай пастаяннай зброяй павінна быць тактыка адзінага фронту, тактыка агульнае барацьбы за неадхільныя патрэбы працоўнае моладзі.*

Асаблівае напружаньне павінна быць прыложана ў працы сярод батрацтва, якой наша організацыя покі што аддае мала ўвагі. Гэту моладзь, якая павінна быць асяродкам комсамолу ў вёсцы, мы павінны заваяваць у першую чаргу.

**Узмацніць ленінскае выхаваньне.**

У галіне ўнутры-організацыйных заданьняў асновай зьяўляецца ўзмацненьне выхаваўчай працы. Гэта праца яшчэ стаіць не на належнай вышыні. Ленінскае выхаваньне комсамольцаў—неабходная ўмова дзеля выпаўненьня тых задач, якія ўсклала на КСМП рэволюцыйная барацьба ў Польшчы. Трэба ня толькі ўзмацніць гэту працу, але і весьці яе сыстэматычна, а не пэрыодычна, у залежнасьці ад здарэньняў. Толькі тады наш абавязак мы зможам лічыць выпаўненым, калі рэволюцыйны *ўздым узмацнім ведамі, якія ўзяты з крыніцы марксызму і ленінізму.*

Мы ня спыняемся над задачамі ўзмацненьня працы антымілітарыскай, спортыўнай, піонэрскай, працы ўцягненьня комсамольцаў у партыйнае жыцьцё і над шэрагам другіх задач. У гэтым артыкуле мы хацелі паказаць толькі *галоўныя задачы, якія стаяць перад Комуністычным Саюзам Моладзі Польшчы ў яго барацьбе за заваёвы большасьці працоўнай моладзі* і гэтым самым пазнаёміць нашых замежных братоў з нашым жыцьцём і працай, якую надзвычайна цяжка праводзіць КСМП у вабставінах яснавяльможнай белай кулацкай Польшчы.

**Ян Лясоцкі.**

1077

Год выданьня II

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



МАЛАДЫ АРАТЫ

Орган ЦК ЛКСМБ

Двухтыднёвая часопісь сялянскай моладзі

Я. К.

№ 10 | Май 1926 г. | Менск

## Зьмітрукоў Васіль з Котчына

*(Быль).*

I

Паміж узгоркаў, балот і лясоў, у лагчыне, стаяла вёстка Котчын.

Ціха, маўклівa яна прытулілася крыўлявай крынічкай. Шэрыя, лахматыя хаткі сіротна аглядалі абшар. Карклівыя вароны табуном віталіся з сумнымі дрэвамі і падранымі стрэхамі...

За вёскаю, шырокай коўдрай, раскінулася поле. Вузенькія шэрыя загончыкі хавалі канцы за небасхілам.

Амаль ля кожнага загончыка цягнуліся зарослыя чартапалохам і рамонкам межы.

На гэтых загончыках праз год чарадаваліся жыта з ярыною. З жыта высока падымалі пухавыя галавы бадакі, а ярыну апранала жоўтай коўдрай сьвірэпа.

Зямлю котчынцы аралі дзядоўскімі сохамі, а заможнейшыя—плугамі.

Па нядзельных днёх у Котчыне гармоніка парыпвала; моладзь тулялася ля парканоў.

Вечарамі з пашы зьвярталася дробнае перахлябістае быдла; коні чуць цягнулі ногі ад калодзезяў...

Так цякло з году ў год жыцьцё ў вёсцы Котчын.

Ад дзядоў пераходзіла да бацькоў, ад бацькоў да сыноў, з пакаленьня ў пакаленьне.

Ї нават вір кастрычнікавай рэволюцыі нічога ня мог зрабіць з Котчынам. Зьбіраліся, праўда, і саветы, і чырвонаармейцы з гораду прыяжджалі, але нічога не маглі зрабіць. Котчын, як была глухою вёскаю, так ёю і засталася.

Новае даецца цяжка і не адразу...

II

Хата Зьмітрука Бекіша стаяла пасярэдзіне сяла.

Зямлі ў яго было пяць дзесяцін. Жыў сярэдня: кароўкі дзьве ды аднаго коніка (з абмуленаю шыяю) трымаў.

Ня ведаю чаму, але збожжа ў Зьмітрука ніколі не радзіла. (Ды, сказаць папраўдзе, ва ўсіх Котчынцаў лепшае ня было).

Жыта заўсёды ў Зьмітрука дробненькае, бадакі ды козьлікі заўсёды апануюць, а дзе ніжэй—адзін мотлах расьце. Зьмітрук і гной перамяняў, і на папар загончыкі застаўляў, але нічога ня выходзіла...

Зьмітрук быў чалавек немалады.

Многа дзяцей у яго было, але ўсе яны паўміралі, адзін сын застаўся. У Чырвонай арміі ўжо трэці год служыць. Павінен хутка зьвярнуцца.



—Цікава?—Але!

Зьмітрук з дня на дзень чакаў сына.

Ї дачакаўся...

У цёмны лістападаўскі вечар, калі ўжо мала дзе ў котчынскіх хатах гарэлі агні, у вакно Зьмітруковай хаты ўставіўся чыйсьці твар і забарабаніў ў заплаканую шыбу пальцы.

— Хто там?..

— Гэта я, ваш сын Васіль, адчынеце!..

Узрадаваны Зьмітрук пакінуў недаплецены лапаць і адшчапіў дзьверы.

Зазьвінелі шпоры, і ў хату ўвашоў чырвонаармеец.

Зграбна пашытая шэрая шынэлька з чырвонымі пятлічкамі, гастраверхая шапка; у руцэ маленькі чамаданчык.

— Сядай вось тут ды распратвайся.

Зьмітрук гукнуў і жонцы, якая ўжо заснула.

— Алена, уставай, наш Васіль зьвярнуўся!..

Старая Алена маланкаю з ложку схапілася.

— Ах, мой сыночак... Золатца... як пахудзеў... перамяніўся... барадою аброс...

— А я думаю, хто гэта такі?—гаварыў Зьмітрук.

Радасьць... Пацалункі...

Гаманілі аж покуль газа ня выгарала.

III

Адпачываў Зьмітрукоў Васіль нядоўга. Праз тыдзень пасьля прыезду з Чырвонай арміі ўжо з бацькам працаваў.





У хляве Васіль з бацькам аконца выразалі і, як у хату, сьвету напусьцілі, ажно жывёла зрабілася весялейшая.

Самым першым Зьмітрукоў Васіль пачаў і сеяць, а да сяўбы вазіў за пяць верст у саўхоз Пірэвічы насеньне прачышчаць, сеялку адтуль прывёз і праз два дні стракатаў ёю па бацькавым загончыку.

Сяляне з насьмешкаю глядзелі на Васілёву работу.

— Пабачым, што з ўсяго гэтага будзе, казалі сяляне, сабраўшыся курыць каля чыйго-небудзь воза ў полі ў часе сяўбы.

А Васіль ведаў сваё: удзень то ў саўхоз едзе, то стракаціць сеялкаю па бацькавым загончыку, а як вечар—кніжку ў рукі.

І сядзіць да позна, ня чуе нават, што журыцца матка. . . . . . . . . . . . .

Хутка ляціць час.

Вось і вясна-красуня. Глянулі бадзёра праталкі; па раўчаках каламутная вада зьмейкаю пакруцілася; гучней загаманіла распранутая ад лёду крынічка. Часьцей і сонейка пачало даведвацца ў вёску Котчын.

Зьмітрукоў Васіль самым першым узяўся за плуг.

А як прышла пара сеяць, ён і ярыну павёз у саўхоз на перачыстку; канюшыны і лубіну адкульсьці раздабыў.

Лубіну адвёў асобны загончык, а канюшыну папырскаў па жыце.

Сяляне не пераставалі сьмяяцца з Васіля, а больш за ўсіх дык дзядзька Хвядос.

Застановіцца, бывала, каля свайго воза на полі, награбе ў хвартух жыта і крычыць здалёк Васілю:

— Гэй, Васіль!.. Лубін, кажаш, пырскаеш?..— Сей! сей!..—і сам, адвярнуўшыся, хныкае ад сьмеху.

А як падойдзе хто-небудзь да Хвядоса курыць, зараз-жа пачынае ён гутарку аб Васілю.

— Бачыш, навіну ўводзіць... Хай ён сабе лубін ці што сее, а я, вось, як падкладу сьвежага гною—трасцу яго жыту раўняцца да майго будзе...

Хвядос быў гаспадар сярэдні. Вызначаўся-ж ён тым, што быў яры вораг навіне ўсялякай.

Адчынілі ў вёсцы хату-чытальню: Хвядос туды ні разу і носа не паказаў; сход які—ня йдзе...

Спытаецца хто-небудзь з моладзі:

— Чаму ты, дзядзька Хвядос, ня йдзешь у хату-чытальню?..

Махне рукою і адкажа:

— Ат, глупства, хата-чытальня есьці ня дасьць.

Часта прыяжджалі ў вёску чырвонаармейцы і фабрычныя рабочыя.

Тады ўжо Хвядос прыходзіў, сядзеў, слухаў, пакуль ня скончыцца даклад, а пасьля схапліваўся з месца і пачынаў горла драць:

— Што вы нам пра саветы кажаце да пра шматпольле?.. Нябось, цьвікоў у краму ня прывезлі!. Толькі гамоніце...

А тыя ажна засумуюць, небаракі.

Сяляне чамусьці ва ўсякіх выпадках слухалі Хвядоса.

Можа, што цёмныя былі?

І на гэты раз верылі Хвядосу. Але як-бы там ні было, а праца Зьмітруковага Васіля цікавіла сялян, і ў глыбіні душы яны яму спачувалі, бо ўсім хацелася чагось новага.

А Зьмітрукоў Васіль пашыраў працу. Ён ведаў, што ад яго посьпехаў залежыць новы твар вёскі.

Адсеяўшыся, Васіль бацькавы каровы за рогі—ды на рынак... А сам купіў адну карову, але лепшую за былых. Вымя—як вядро, сама—ангельскае пароды.

Павёў Васіль гэту карову і злучыў з племянным быком. Сьвіней новых таксама завёў Васіль, якіхсьці з задранымі ўгору лычамі і такіх, што як тры месяцы добра пакарміў, дык кабан пудоў на восем...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вясну замяняла лета. Жыта на палёх зарунела, а сяляне з полахам паглядвалі на Зьмітруковыя загончыкі. Здавалася, што праўду казаў Хвядос.

Жыта на Зьмітруковым загончыку было рэдкае, нібы пасаджана, а лубін і ня ўсходзіў.

Хвядос яшчэ болей пачаў сьмяяцца над Васілёвай працай, нават сам Зьмітрук, бацька Васіля, пачаў пабуркваць на сына:

— Глядзі, Васіль, каб з твае працы ня вышла, як з Заблоцкага мылам...

Васіль у вадказ толькі ўсьмяхаўся:

— Нічога, кажа, тата,—горш ня будзе, як было.

IV

Сонца гарачэй пякло. Жыта закрасавала. У ціхія маўклівыя дні над ім, шэрымі воблакамі, уздымаўся дымок.

З усіх загонаў дробненькага жыта выглядвалі, як пугаўё, бадакі, і толькі на адным загончыку стаяла жыта, як сталь, чыстае, каранастае, трасьцістае, і каласы, як пранікі...

Гэта быў загончык Зьмітрука, Васілёвага бацькі. І цешыўся Зьмітрук на свой загончык.

А на другім полі, паміж апранутых жоўтай сьвірэпавай коўдрай аўсоў ушчаміўся другі загончык Зьмітрука Бекіша.

Зялёна-аксамітная вопратка, шырокае пер'е—проста любата. А поруч—лубін увесь абліўся сінькаю...

І хто толькі з котчынцаў ні праходзіў ля Зьмітруковых загончыкаў, ва ўсіх хавалася думка:

— Абы восень, і мы разам з Зьмітруковым Васілём...

Прыціх нешта і Хвядос. Калі хто ў яго запытае:

— Ну, што ты скажаш, дзядзька Хвядос, аб Зьмітруковым Васілю?..—усьміхаецца і адкажа:

— Пабачым, што далей...—і пашлындае па вуліцы.

А вечарам, калі толькі вёску апранаў густы змрок—хата Зьмітрука Бекіша была поўна людзей. Старыя, маладыя...

І Васіль Зьмітрукоў сярод іх. Дастае з шуплялы стала кніжку з шэрымі вокладкамі і чытае.

Уважліва слухалі сяляне...

Часам закачаецца чыя-небудзь галава і прашамкае стары:

— А скажы, Васіль, ці ўсюды можа расьці лубін?..

Васіль адказвае, тлумачыць...

А лямпачка з заклееным на адным баку паперою шклом, насупіўшыся, пазірае на гурт людзей і нібы злуецца.

Зразу сяляне-гурткоўцы да Зьмітрука ў хату займацца хадзілі, а пасьля Васіль параіў хадзіць у хату-чытальню...

*(Глядзі 3-ю старонку вокладкі).*

# ВЕРШЫ

Пётра Глебка



## Май

Май кучаравы, вясёлы;
сонца іскрыста гарыць.
Вольныя вёскі і сёлы
вышлі спраўляць на гары

сьвята сусьветнае люду.
Сьцягі на сонцы гарэць.
Буду у вёсцы—ня буду—
знай комсамольская раць:

стану я ў роўныя шэрагі,
песьню сьпяваць падмагу...
Гукі пракоцяцца берагам,
сьціхне над Нёманам шум.

Моладзь нам выйдзе насустрач
з здушаных панам краін.
Вецер вясёлы і шустры
кведь не асыпле з калін.

Май кучаравы, вясёлы,
сонца іскрыста гарыць.
Чую далёка дзесь шолах—
нам падпяваюць бары.

## Вясна

Эх, вясна—маладая красуня,
хіба-ж я не такі малады?
У грудзёх сэрца буйна красуе,
як у траўні красуюць сады.

Ой, дзяўчаткі мае, комсамолкі,
выйдзем разам вясну сустракаць!
Паабсохлі бялявыя ўзгоркі,
ў зеляніне залоцяцца гай.

Вы запейце вясновую песьню,
я вам буду і сам падпяваць.
Сонца косы чарнявыя песьціць
на узьмежку ўзыходзіць трава.

Эх, вясна—маладая красуня,
ты за нас—не маладзей:
нашы сэрцы, ой, ды красуюць,
быццам сонечны сьмех на вадзе.

## Люблю...

Люблю вясны шаўковы золак,
люблю у цьвецені сады,
шуршавы шум шумлівых хвоек,
над гаем белы сонцадым.

Люблю да сонца, рана, рана,
калі туман шчэ не спадзе,
лямежным плугам поле раніць,
страчаць да сонца люблю дзень.

Люблю ў нядзельку на узгорку
з дзяўчынай стаць у карагод,
і сьмех вясёлы комсамолкі
нейк ціха сочыцца у кроў.

Люблю вясны шаўковы золак,
люблю у цьвецені сады,
люблю ў блакітах россып зорак,
люблю таму, што малады.

## За гаем сонца патухае...

За гаем сонца патухае,
з-за гор выходзіць маладзік,
мяне чакае дарагая
ў прысадах сьвежых, маладых.

Адзін выходжу на дарогу.
Буйное жыта ледзь шуміць,
хавае ў хмарах свае рогі
ад зорак сьмелых маладзік.

Шумяць у цьвецені бярозы,
маўчыць пясчаны толькі шлях.
Мяне казлычуць чыесь косы—
За шыю Ганна абняла.
. . . . . . . . . . . . .

І доўга, доўга мы гуляем;
зьбіраюць зоры карагод;
тады бяжым, яна пужае,
што мы спазьніліся на сход.

І позна, позна, калі месяц
пачне выходзіць на спачын,
ідзем са сходу й з сьмехам месім
туманны змрок худых лагчын.

Шумяць у цьвецені бярозы,
з жытоў дыміцца ліпкі пах,
і коні рэзуць дзесь пры дарозе,—
маўчыць пясчаны толькі шлях.

# Карапузяты

*(Апавяданьне)*

Хто ня ведае гэтых карапузятак, вясковых падростачкаў, што яшчэ гатовы памерацца з сталом! Што гэта за вясёлыя людзі, гэтыя дзяўчаткі ды хлапчукі!

Але ніхто на іх не зьвяртае ўвагі. На вечарынку ня пускаюць; як белае, цёплае паветра з дымам ад папярос ды пылам, што разьдзімаецца дзявочымі спадніцамі, клубкамі вылятае з сяней, так вылятаюць і яны адтуль, баронячы сваю скуру ад плясуновай дзягі, якім дзеці мяшаюць размахнуцца ды пабольш наглытацца пылу, штырхаючыся пад нагамі.

— Эх, брат хлопцы!..—адазваўся адзін, васьмігадовы хлапчук Міхась, да сваіх сяброў: — чаго мы будзем лазіць да іх, каб яны білі нас?.. Давай мы лепш сваю вечарынку зробім!

— Давай!.. Давай!.. — падхвацілі Міхася дзеці.

— О, тады няхай яны да нас паткнуцца, зразу хамуціны дадзім, — дабавіў Пятрусь, сьмелы хлопец, гадоў дванаццаць, большы ад усіх.

І дзеці цэлай грамадой, як хваля марская, павалілі ўдоўж вуліцы. На адным бервяне сядзелі мужчыны, на другім — бабы. Абедзьве гэтыя кучкі вясковых старыкоў гутарылі ціха ды спакойна штосьці пра свае гаспадарскія справы.

* * *

Быў харошы летні вечар. Сонца ўжо села за лесам і толькі на яго месцы засталося хораша размалёванае, чырвона-касатае зьзяньне неба, якое кідалася ў вочы сваім прыгожым блескам і паказвала сьвятлу, куды схавалася сонца. Але яно, мусіць, зацікавілася дакладам нашага Рыгора і ўсё не пакідала зялёнага лужочка каля рэчкі, дзе праводзілі сваю сходку комсамольцы. Гарачыя словы Рыгора радзіліся ў яго здаровых грудзёх і так пекна ды жаласьліва выліваліся з вуснаў, што аж сьціскалі самавольна сэрцы ня толькі комсамольцам, але, мусіць, і гэтаму сьвятлу.

Па сканчэньні сходкі Рыгор не выкідаў з галавы пытаньня „аб працы сярод моладзі"; яго мучыла, што ён адзін у вёсцы камсамолец і больш, пакуль што, немагчыма мець. Галава гэтага маладога хлопца ўжо досыць напрацавалася, і яму было трохі неяк цяжкавата і цягнула аддыхнуць. Ціхі вечар ды зялёны лужок, па якім ішоў Рыгор, вабілі яго да сябе, але ён адважыў ісьці да свайго садзіка, дзе заўсёды, калі меў вольную часіну, чытаў ці што-небудзь пісаў; і Рыгор, мернымі крокамі, спакойна зашагаў далей. І тут да яго ўжо сталі далятаць песьні і крыкі з вечарынкі.

Плакала скрыпка ды ўсхліпвалі цымбалы, пераліваючыся з сьпевамі дзяўчат, што шпацыравалі па вуліцы. Усе гэтыя зыкі як-бы піхалі Рыгора назад, і ён, увашоўшы ў свой любімы садочак, рашыў прылегчы.

Расьцягнуўшыся на мякка-шоўкавай траве, ён выставіў у чыстае паветра свае грудзі, каб абняць ўсё харзство летняга беларускага вечара.

Кругом Рыгора было так хораша, так прыемна й радасна, што ён нават не прыкмячаў, як ноч што раз цяжэй і цяжэй налягала на зямлю, абымаючы яго сваімі чорнымі лапамі, як-бы хочучы схапіць. Прыгожы зялёны садочак утаропіўся і чароўна паглядаў у бок Рыгора, хочучы спалохаць яго нейкай таемнасьцю ліставой густаты свайго нутра; ён, здаецца, зараз-жа спытаецца ў Рыгора: „Чаго гэта ты тут у гэткую пору?".. Кругом было вельмі ціха; ліліся таемныя зыкі залатой цішы, і Рыгору хацелася ўсей душой аддацца ім, але рэзкі піск скрыпкі перашкаджаў, і ён нават мучыўся.

Разам пачуўся шум ды дзяціны шопат, які заставіў Рыгора прыпадняцца. Убачыўшы цэлую граmаду гэтых, як іх у нас завуць, карапузят, ён вельмі зацікавіўся і пільна глядзеў, як дзеці, схаваўшыся за паркан саду, абселі кружком таго самага Міхася, што прапаноўваў рабіць вечарынку. У руках пасьледняга быў кусочак паперы, акручанай на карандаш ці-то што.

— Але знаеце, хлопцы, што!?—гаварыў, седзячы пасярэдзіне і адварачваючыся то да таго, то да другога сябра, Міхась:—запісваць хоць каго ў наш комсамол мы ня будзем. Вот—Сёмку Янкавага ды Косьцю Максімавага... яны толькі біцца, ды больш нічога. А Сёмка дык яшчэ гэта расказаць можа ўсім вялікім.

— А мяне, пэўна, тады дзядзька будзе біць, як пачуе, — як-бы ўмаляючым тонам падхваціў Сымонка, у падраненькай сарочцы і з паабдзіранымі, чуць не па самыя каленкі, калошкамі.

— Не, не!.. ня прымем іх!—зашумелі дзеці.

— А калі мы ўжо будзем называцца комсамольцамі,—гаварыў Міхась, — дык зробім сваю тады вечарынку!

— Ды ня гэтку вечарынку, як яны, а комсамольскую! — перабіваў Міхася Пятрусь. — А на яе пазавем і нашага комсамольца Рыгора!

— Пазваць то пазавем, але пра гэта ані ша!.. А то часамі каб чаго дрэннага з гэтага тады ня вышла,—прапаноўваў Сымонка.

— Ні ша!.. Ані ша!!!—з сьмехам і шумам крычалі дзеці, бягучы ўжо на вуліцу.

Палілася жаль на Рыгоравым сэрцы і так яго сьціснула, што сьлёзы заблішчэлі на вачох, якія раптам загарэліся, блеск нейкага шчасьця. Сэрца шырока расьцягнулася, ды пугнула вялікай струёй кроў, і Рыгор пачуў, як яна забулькала па ўсіх яго жылках. Па губах прабег сьмех. На яго твары цяпер можна было прачытаць, што ён як-бы адшукаў нейкую, надта вялікую, таемнасьць.

— Вось дык шчасьце!.. толькі ўмей брацьі!—радасна буркнуў Рыгор, шпарка ўсхватваючыся на ногі, ня гледзячы на тое, што яшчэ не аддыхнуў зусім.

— Во дзе можна дый трэба распачаць працу, якая дасьць вялікія і добрыя вынікі ў ажыцьцяўленьні нашых комсамольскіх заданьняў. Зьмена... сталёвая зьмена будзе!

Брыдкія прыпевы хлопцаў, што параўняліся з садам, варочаючыся з вечарынкі, ужо ня сьціскалі Рыгоравага сэрца, як гэта было раней, бо яно цяпер было поўна адвагі, што скора гэтыя песьні заменяць піонэрскія ды комсамольскія вясёлыя...

**Цімох Мацкевіч.**



# ЛЕНІНСКАЯ КОМСАМОЛІЯ

## Рэжым экономіі і комсамол вёскі

Хто з вас чытаў газэты, альбо хадзіў на сходы слухаць даклады, то, вядома, чуў аб тым, што наша комуністычная партыя і Савецкая ўлада ўзяліся за так званую індустрыялізацыю Савецкага Саюзу.

Што гэта за індустрыялізацыя, і для чаго яна нам патрэбна?

Задаць такое пытаньне можа кожны, хто сустрэнецца з гэтаю справаю.

Як вядома, мы знаходзімся у капіталістычным агарненьні. Ужо дзевяты год будуем соцыялістычную гаспадарку. У далейшым мы зможам будаваць соцыялізм у сябе толькі тады, калі мы ня будзем залежаць у вядзеньні свае гаспадаркі ад капіталістычных краін.

Такое-ж становішча, у якім мы цяпер жывем, калі мы галоўныя машыны, машыны тыя, якія выробляюць машыны, будзем прывозіць з Эўропы, а сваіх мець ня будзем, дык мы ня можам гарантаваць сябе ад таго, што нам буржуі іх заўтра не дадуць, і мы ня зможам у сябе будаваць гаспадарку.

Вось для таго, каб нам можна было пабудаваць соцыялізм у Савецкім Саюзе, нам патрэбна ў сябе мець ня толькі тыя машыны, на якіх мы вытыкаем паркаль, але і тыя машыны, якія будуць выпрацоўваць машыны, на якіх мы вытыкаем паркаль.

Зрабіўшы гэта, мы ня будзем прасіць у якой-небудзь Нямеччыны даць нам машыну. Мы ня будзем залежаць тады ад іх у вядзеньні свае гаспадаркі, а будзем будаваць яе самастойна.

Вось чаму XIV З'езд Усесаюзнае Комуністычнае партыі так востра паставіў пытаньне перад усёй партыяй і краем аб індустрыялізацыі Савецкага Саюзу.

### Кампанія за рэжым экономіі.

Для таго, каб пабудаваць новыя заводы, а таксама перабудаваць старыя заводы, бо яны знасіліся і ўстарэлі, нашай дзяржаве патрэбны сродкі. Сродкаў нам для такой справы капіталістычныя дзяржавы не даюць. Мы сродкі можам здабыць толькі шляхам усямернага скарыстоўваньня ўнутраных магчымасьцяй краю, толькі шляхам соцыялістычнага назапашваньня (накопленьня).

Таму мы і праводзім кампанію за рэжым экономіі, кампанію за тое, каб ніводная капейка не прапала дарам і ня трацілася на выдаткі непатрэбныя нам, а пападала у соцыялістычны кацёл.

За правядзеньне гэтай кампаніі ўзялася партыя, рабочая кляса і працоўныя масы. Пры іх актыўным удзеле мы, бязумоўна, справімся з гэтай вельмі цяжкай і адказнай задачай.

Што-ж патрэбна ў вёсцы ў даным выпадку рабіць комсамолу і моладзі?

### Ахоўвай лясы—дзяржаўнае багацьце Беларусі.

У леташнім годзе, у часе сушы на беларусі лясными пажарамі зьнішчана 52,721 кубіч. сажняў лесу, каштоўнасьцю на чатырыста шаснаццаць тысяч чатырыста сорак сем рублёў (416,447 руб. 66 к.)

Акрамя таго самавольна высечана (украдзена 107,668 кубіч. сажняў каштоўнасьцю адзін мільён пяцьсот дваццаць адна тысяча трыста чатыры (1,524,304 руб. 88 к.).

Прапаўшыя 1,937,752 р. 54 к. зрабілі вялікую дзірку у выкананьні тых задач, якія мы ставім перад сабою, гэта—адбудоўля фабрык, школ і розных прадпрыемстваў.

Ахова лесу, галоўнага багацьця нашага краю, галоўнай крыніцы, адкуль можна патроху чэрпаць сродкі па соцыялістычным назапашваньні, павінна стаць абавязкам кожнага комсамольца, кожнага маладога селяніна.

Ні адно дрэва ў лесе не павінна прапасьці дарма. Усямерная барацьба з пажарамі, усямерная барацьба з пакражаю лесу. Усямерная дапамога на яго зьберажэньне.

### Падымай гаспадарку саўхозаў-комун, арцеляй, ахоўвай іншую дзяржаўную маемасьць.

Рабочая моладзь саўгаспадаркі так, як і рабочая моладзь на фабрыцы альбо на заводзе, павінна падымаць вытворчасьць працы. З корнем патрэбна вырваць нядбалыя адносіны да працы. Прагулам не павінна быць месца.

Трэба, каб сялянская моладзь глядзела на саўгаспадарку ня так, як раней яна глядзела на гаспа-

дарку абшарніка. Тое, што было раней харошым (падрыў гаспадаркі), дык цяпер наадварот—стала дрэнным.

**Усямерная дапамога ў разьвіцьці савецкай гаспадаркі**—вось задача сялянскай і рабочай моладзі савецкіх гаспадарак.

Усе павінны ведаць, што кожны прапаўшы сноп аўса ў саўхозе—гэта страта ў дзяржаўнай маемасьці Савецкага Саюзу.

Некаторыя нашы комуны і арцелі за апошні год паднялі сваю гаспадарку, а некаторыя яшчэ горш апусьцілі. Былі выпады разваладў.

Вядома, і тут патрэбна аддаць усе сілы на тое, каб замацаваць іх існаваньне, палепшыць гаспадарку, зьберагаць кожную капейку, правілова яе скарыстоўваючы.

На вёсцы ёсьць таксама шмат іншай дзяржаўнай маемасьці, якую трэба захоўваць, зьнішчаючы ўсякія выпады злоўжываньняў.

**Сельска-гаспадарчы падатак, яго выплата, складаньне сьпісаў.**

Сельска-гаспадарчы падатак зьяўляецца аднэй з крыніц папаўненьня сродкаў нашай дзяржавы. Таму ад сталай пастаноўкі гэтай справы будзе многае залежаць. Патрэбна сваячасовая яго выплата—складаньне правіловых сьпісаў па абкладаньні, выяўленьні артыкулаў даходу, дапамога сельскаму савету ў правядзеньні гэтай справы.

**Паднімаць працу коопэрацыі, павялічваць удзел у працы насельніцтва.**

Мы з вамі не адзін раз ужо чулі, што праз коопэрацыю нам трэба прыцягнуць да ўдзелу ў соцыялістычным будаваньні нашай краіны.

Каб зрабіць гэта, трэба, каб наша коопэрацыя добра працавала, уцягнула ў сваю працу шырокія колы насельніцтва вёскі—бедняка, серадняка.

У нашай працы маецца шмат непаразуменьняў. Часта бывае, калі коопэратыўшчыкі пракрадваюцца, заганяюць уложаныя паі, робяць непатрэбныя выдаткі, без якіх, вядома, абыйсьціся можна было-б, не даючы мажлівасьці разьвіцьцю коопэрацыі, заваёўваньню аўторытэту, такім чынам, сярод насельніцтва.

**Трэба, каб комсамол і моладзь былі пайшчыкамі у коопэратыве, дапамагалі зьнішчаць непатрэбныя, лішнія выдаткі, дапамагалі ўсямерна-му замацаваньню коопэрацыі.**

**Нясі грошы у касы ашчаднасьці.**

Зарабіўшы крыху грошай, вядома, іх трэба несьці здаваць у касу ашчаднасьці. Ад гэтага будзе дзьве карысьці: адна таму селяніну, які паложыць грошы, бо ен атрымае некалькі процантаў.

Другая карысьць—дзяржаве, бо ў яе будзе на руках больш сродкаў для таго, каб рабіць тыя альбо іншыя звароты.

Тыя-ж грошы, што будуць ляжаць ва ўласнай кішэні, карысьці нікому не дадуць. Загэтым трэба, каб **кожная капейка здавалася ў дзяржаўныя касы ашчаднасьці.**



На беразе.

Нашаму саюзу трэба памятаць, што кампанія барацьбы за рэжым экономіі—кампанія доўгай працы. У сваёй адозьве ЦК УЛКСМ да ўсіх організацый і сяброў саюзу піша:

„Цэнтральны Камітэт яшчэ раз напамінае, што кампанія барацьбы за рэжым экономіі разьлічана на доўгі пэрыод, і прапануе ўсім організацыям і усім сябром Саюзу прыняць усе меры і прыкласьці ўсе сілы, каб дапамагчы партыі ў барацьбе за соцыялістычнае назапашваньне. Неабходна, каб кожны сябра Саюзу ў выніку гэтай кампаніі стаў актыўным памоцнікам партыі ў яе гаспадарчай працы“.

**М. Адзінец.**





# ПЕСЬНІ

## Марш Будзённага

Мы коньніца чырвоная, і пра нас
Быліны гулказвонныя сьпяваюць сказ:
Як мы ў ночы ясныя,
У дні хмурныя, нянасныя
Адважна і сьмела ў бой ідзем...

Вядзі-ж, Будзённы, нас сьмялей у бой!
Хай гром грыміць, няхай пажар кругом—
Мы—беззаветныя героі ўсе,
І ўсё наша жыцьцё—барацьба!..

Будзённы—наш брацішка, з намі ўвесь народ...
Загад: „галоў ня вешаць, аісьці ў паход“,
Бо з намі Варашылаў, наш чырвоны афіцэр!..
Здалеем кроў праліць за ЭС-ЭС-ЭС-ЭР.

Вядзі-ж, Будзённы, нас сьмялей у бой!
Хай гром грыміць, няхай пажар кругом—
Мы—беззаветныя героі ўсе,
І ўсё наша жыцьцё—барацьба!..

Высока ў небе ўецца наш чырвоны сьцяг,
Мы ў бойку ўсе імчымся на ліхіх канях...
Мы з зоркай пяцікутнаю, лавінаю магутнаю:
— Даёш Варшаву, дай Бэрлін, ўжо урэзаліся ў Крым.

Вядзі-ж, Будзённы, нас сьмялей у бой!
Хай гром грыміць, няхай пажар кругом—
Мы—беззаветныя героі ўсе,
І ўсё наша жыцьцё—барацьба!..

## Песьня комсамолкі

Біла, біла мяне маці, праклінала,
З комсамольцамі гуляць ня пускала.

— Лепш-бы ў хаце, кажа, ты пасядзела,
Як у хаце працаваць, паглядзела.

— Не, матуля, гэту дрэнь я пакіну,
Вечна той цяжар на жанчыну.

Ня гуляць—у клюб пайду, пачытаю,
Шмат карыснага найду і спазнаю.

— Кінь ты з клюбамі сваімі, слухай, дзеўка,
Там над богам, над сьвятымі строяць зьдзекі.

Што там добрага знашла—я ня знаю;
У царкву ты лепш пашла-б, эх, дурная.

— Не маленькая ўжо я, не абманеш,
Калачом мяне ў царкву не заманіш.

Ўжо ня прыдзецца папом нас марочыць,
Будзем жыць цяпер мы самі, як захочам.

Мы сядзелі на вадзе ды на хлебе,
А яны там дзе-ні-дзе ўсё пра неба.

З дурняў поп бярэ даход—з богамольцаў,
Ну, а я пайду на сход к комсамольцам.

Комсамольцы не плятуць—кажуць дзела,
Шмат галоў ад іхніх слоў прасьвятлела.

Хоць кляні мяне, хоць бі—не баюся,
Усё роўна ў комсамол запішуся.

## А мой бацька добры быў...

А мой бацька добры быў—
Ён казу мне падарыў,
А козачка белая
Па гародзе бегае.
Аб'елася лебяды:
Крычыць, бяжыць да вады.
Мяне дома ня было,
І козачку абдуло.
Ой, глядзеце, хлопцы ўсе,
Янку трасца як трасе!
Няхай трасе, няхай трасе,
Бо ён сьвіньні ўсё пасе.
Вось трасецца мой каток,
Як асінавы лісток,
А я з вамі, малайцамі,
Пагуляю хоць часок.

Ой, спалеце, пяруны,
Майго Янку, бо дурны.
Назаляе толькі мне,
А каб сватацца, дык не.
Я кажу табе ня раз—
Прысылай сватоў да нас;
Татка добры—ён аддасьць,
У пасаг цялушку дасьць.
А той Янка, той благі,
Ўсё сьмяецца—гі-гі-гі!
Да таго-ж часамі кпіць,
Ажно сэрца забаліць.
Ой, пралецеся, дажджы,
А ты, Яначка, пажджы,
Учыню табе бяду—
За нікога не пайду.

# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Сельска-гаспадарчыя веды не прападаюць дарма.

*(Пуцімель, Мядзьвінскага с.-с. Міласлаўскага раёну).*

У нашай вёсцы маюцца 4 комсамольцы, якія ня так даўно ўступілі ў комсамол; за сваё кароткае прабываньне ў шэрагах комсамолу яны ўжо пасьпелі шмат чаму навучыцца.

Зьяўляючыся сябрамі сельска-гаспадарчага гуртка, яны набылі веды, якія цяпер і прыстасоўваюць на практыцы.

Як толькі наступіла вясна, яны ўпрасілі сваіх бацькоў ачысьціць і адсартаваць насеньне. Бацькі згадзіліся. Гледзячы на іх, суседзі зрабілі тое-ж самае.

З гэтага відаць, што на добрыя справы сяляне адгукваюцца, што пачынальнікамі іх зьявіліся комсамольцы, як перадавая сялянская моладзь

**І. Каліна.**

## Гурток прыхільнікаў газэты.

*(Рудзенск).*

У пасёлку Рудзенск з'арганізаваўся гурток „прыхільнікаў газэт". У гурток запісалася 10 чалавек. Раз у тыдзень адбываюцца заняткі гуртка, дзе колектыўна працуем-вучымся, як пісаць у газэту. Выпускаем насьценную газэту „Наша вёска". Гурток паставіў перад сабою задачу: пашырэньне газэт і часопісяй сярод сялянства.

Гурток карыстаецца аўторытэтам сярод сялянства.

**Бакавы.**

## 1 Мая сьвяткавалі весела.

*(М. Капыль, Случчына).*

Вясеньні вечар 31 красавіка. Абудзіўся комсамольскі клюб. Сьцягі, плякаты, гоман, песьні на вуліцы.

Стройнымі радамі, з бадзёрымі песьнямі накіраваліся ў беларускую сямігодку для спатканьня дня працы і еднасьці рабочых усіх краін—Першага Мая.

Вось і сямігодка. Адчыняецца ўрачыстае пасяджэньне. Шэраг прамоўцаў высьвятляюць узьнікненьне і значэньне дня сьвята—Першага Мая. Пад гучныя воплескі зачытваецца ліст капыльскіх комсамольцаў комсамольцам Літвы. На гэтым кончылася ўрачыстая частка вечару. Праз хвілін пяць мы зноў у шэрагах. Весела. Позна, каля 2-х гадзін поўначы. Разыходзімся па хатах.

А назаўтра зноў ля комсамольскага клюбу. Колёны аб'яднаных рабочых—профсаюзьнікі, партыйцы, комсамольцы, піонэры і неорганізованае насельніцтва мястэчка згуртаваліся вакол трыбуны на плошчы. Уважліва слухаюць прамоўцаў. Душа рвецца да закардонных змаганьнікаў-рэволюцыянэраў. Эх, скарэй-бы пабачыцца! Мітынг скончан. Дэмонструем сваю моц, еднасьць па вуліцах мястэчка.

Позна разыходзімся дамоў. Сьвята 1-га Мая прашло весела.

**А. Н-ны.**

## Вывучаем свой край.

*(В. Азяраны, Рагачоўшчына).*

Вывучэньне краю—адна з галоўных задач, якая стаіць перад грамадзкімі працаўнікамі вёскі: настаўнікамі, комсамольцамі, партыйцамі, коопэратарамі і г. д. Ад гэтага вывучэньня залежыць тэмп культурнага адраджэньня нашай краіны. У в. Азяраны маюцца спрыяючыя ўмовы, каб прыступіць да краяведчай працы: курганы раскіданы па ўсім полі, шмат розных лягенд, песень і, самае галоўнае, тут маецца шмат матэрыялу для вывучэньня моўных асаблівасьцяй насельніцтва вёскі з іх „аканьнем„ і „дзеканьнем".

Маецца захаваных ў мове шмат старабеларускіх слоў.



Гэтым вывучэньнем і заняліся нашы настаўнікі, комсамольцы і партыйцы.

З'арганізаваны гурток. Праца разьмеркавана так: настаўніцтву даручана пісаць гісторыю вёсак, комсамольцам прыступіць да зьбіраньня слоў, песень і лягенд.

Наогул праца разгарнулася, дзякуючы цеснай і шчырай працы комсамольцаў з настаўніцтвам.

**Я. Савіцкі.**

## Комсамольская ўсяночная.

*(М. Дукора, Сьмілавіцкі раён, Меншчына).*

Ня гледзячы на тое, што ў Дукоры маюцца дзьве царквы, якія „абслугоўваюць" каля 15 вёсак, аднак на ўсяноччую сабралася мала людзей. Моладзі ў царкве амаль што і ня было: яна пашла ў клюб, дзе адбыўся вечар, прысьвечаны сьвяту Першага Мая.

Малы клюб ня мог зьмясьціць усіх жадаючых быць на вечары. А жадаючых было шмат.

На вечары выступаў шэраг прамоўцаў ад розных Дукорскіх організацый, якія ў яскравых рысах высьвятлілі дзень сьвята—Першае Мая. Пасьля было выступленьне хору. Першамайскія народныя і бытавыя песьні надта захапілі прысутную моладзь, аб чым сьведчылі бурныя воплескі пасьля кожнай прапетай песьні.

Позна ноччу скончыўся вечар, і здаволеная моладзь „усяночнай ў клюбе" стала разыходзіцца па хатах.

— Усяночная ў клюбе шмат цікавей і карысьней усяночнай у царкве,—так казала моладзь пасьля вечару.

**З.**

## Вывучаем Беларускую мову.

*(Гомельскі Пэдтэхнікум).*

Спачатку, калі толькі ў Тэхнікуме было ўведзена выкладаньне беларускае мовы, дык шмат хто з студэнтаў не маглі згадзіцца з тым, што беларуская мова—родная мова. Няпрыхільна адносіліся студэнты да беларусізацыі. Нават даходзіла да таго, што на комсамольскай ячэйцы ставілі пытаньне не агітаваць супроць беларусізацыі тэхнікуму.

У сучасны момант справа значна палепшылася. Шмат хто з студэнтаў навучыліся гаварыць пабеларуску, цікавяцца беларускаю літаратураю і чытаюць беларускія кніжкі.

Застаецца больш шырока разгарнуць працу па беларусізацыі насельніцтва.

**М. Карпачоў.**

## Куток непачатай працы.

*(В. Рыбцы, Сьмілавіцкага р).*

Вёска Рыбцы—куток зусім непачатай працы. Моладзь уся напіваецца самагону і буяніць. Ня толькі ячэйкі ЛКСМБ, але нават ніводнага комсамольца ў вёсцы няма. Культасьветнай



працы ніякай не вядзецца. Газэты і часопісі ня выпісваюцца. А вёска, трэба сказаць, не малая і моладзі ёсьць шмат.

Неабходна на гэта зьвярнуць увагу суседнім ячэйкам ЛКСМБ і разбудзіць в. Рыбцы ад сну, у якім яна знаходзіцца.

**Б.**



# На дапамогу сельска-гаспадарчаму гуртку ў яго летняй працы

Аднэй з асноўных задач, што стаяць перад нашай краінай, зьяўляецца падняцьце сельскай гаспадаркі. Посьпех у вырашэньні гэтай задачы залежыць ад таго, наколькі скора будзе йсьці прасоўваньне ў вёску с.-г. машын, разьвіцьцё с.-г. крэдыту і ў значнай меры ад таго, як скора селянін навучыцца скарыстоўваць у сваёй гаспадарцы вопыт агрономіі і перадавых сялян. Гэта ставіць агропрапаганду на адно з першых месц у працы вясковых ячэек комсамолу.

Агропрапаганда праводзіцца ячэйкамі праз організацыю с.-г. гурткоў, якія організуюць практычную працу на Ленінскай паласе і дзесяціне, у гаспадарках членаў гуртка, організуюць правядзеньне лекцый і гутарак аб сельскай гаспадарцы.

С.-г. гурткі вядуць працу пад кіраўніцтвам агронома, спэцыялістага па якой-небудзь галіне сел. гаспадаркі, настаўніка, вопытнага ў с. г. партыйца альбо комсамольца, знаёмага на практыцы з асновамі вядзеньня с. г., перадавіка-селяніна.

Ня гонячыся за колькасьцю членаў, с.-г. гурток ахапляе моладзь і дарослых сялян, якія будуць весьці ў гуртку практычную працу, якія маюць у сваіх гаспадарках дасягненьні: культурна апрацоўваюць зямлю, палепшылі пароду жывёлы, увялі шматпольле і г. д. Агропрапаганда гуртка павінна апірацца на маючыяся ў раёне і с.-савеце конкрэтныя дасягненьні ў сельскай гаспадарцы саўхозаў, комун, асобных сялян.

Праца с. г. гуртка вядзецца ў напрамках: тэорытычным—атрыманьне агрономічных ведаў членамі гуртка і практычным—праца на Ленінскай паласе і дзесяціне, у сябе ў гаспадарцы.

У васнову тэорытычных заняткаў кладзецца зборнік „Комсамолец за плугам“ (2-е выданьне) і, як падсобны матэрыял, часопісь „Плуг“, газ. „Бел. Вёска“, „Крестьянская газета“ і „Беднота“, а таксама выдадзеная „Молодой гвардией“ „Сел.-хоз. хрестоматия“. Карыстаньне падсобным матэрыялам важна таму, што ім будзе матэрыял зьвязаны ў гэты час з практычнай працай гуртка.

### Мэтод заняткаў.

Дзе ёсьць спэцыялісты, які кіруе гуртком, ён праводзіць гутарку, да якой рыхтуюцца члены гуртка, а потым ідзе абгаварваньне пытаньняў, закранутых у гутарцы і ўсплыўшых у членаў гуртка пры працы.

Дзе кіраўніком не спэцыялісты, там праводзіцца сумеснае чытаньне гутарак з зборніку і падсобных матэрыялаў і абгаварваньне іх. Гутаркі з зборніку „Комс. за плугам“ распрацоўваюцца прыстасавана да практычнай працы гуртка, для чаго перад заняткамі трэба параіцца з агрономам, якія гутаркі трэба распрацоўваць у даным с.-савеце, вёсцы і ў якой чарзе.

### Сельска-гаспадарчы гурток і сялянства.

Гурток, даючы агроведы сваім членам, павінен ахапляць у сваёй працы праз організацыю с.-г. куткоў у хаце-чытальні, чытак, лекцый, гутарак, агросудоў і г. д. і шырокія масы сялян, каб уся праца і дасягненьні гуртка былі відаць сялянству. У с.-г. кутку гурток выстаўляе плякаты і табліцы на с.-г. ўзоры расьлін, гародніны, узоры насеньня, якім сеюць сяляне, наколькі яно засьмецена, па

I Ўсебеларуская Мастацкая Выстаўка.



Скульптар Грубэ. Галава рабочага.

раўнаньне іх з адборным насеньнем, якім трэба сеяць, даць табліцы, наколькі сялянства губіць ад таго, што сее засьмеценым насеньнем. У кутку выстаўляецца матэрыял для вывучэньня вёскі, якім займаецца гурток, літаратура аб с. г., якая па нарадзе з агрономам рэкомэндуецца сялянству для чытаньня.

Менск. Школа фабрычна-заводзкага вучнёўства.



Дзяўчаты за працай.

Заняткі гуртка праводзяцца адчынена для жадаючых, аб занятках паведамляецца сялянства. Акрамя заняткаў, гурток праводзіць у хаце-чытальні лекцыі агронома, а дзе нельга правесьці лекцыі, там праводзяцца лепшымі членамі гуртка чыткі с.-г. літаратуры, газэт (чыткі павінны праводзіцца ўсімі гурткамі). Як лекцыі, так і чыткі павінны праводзіцца па пытаньнях, цікавячых сялян, якія найбольш востра стаяць перад сялянствам данае вёскі, с.-савету.

### Агро-суды.

Калі гурток прапрацуе шэраг пытаньняў, ячэйка, дзе ёсьць сілы, можа ўзяцца за правядзеньне паказных судоў, напрыклад: суд над селянінам, які ня ўводзіць ворыва на зіму, над сялянкай, якая дрэнна вядзе агарод, і другімі недахопамі ў с.-гаспадарцы.

### Практычная праца.

Галоўным у працы гуртка павінна быць увязка тэорытычных заняткаў з практычнай працай, у якой гурток не павінен імкнуцца ахапіць усе галіны сельскае гаспадаркі наогул, а браць для працы найбольш балючае і неадкладнае для тэй вёскі, альбо с.-савету, дзе працуе гурток, тое, што гурток зможа давесьці да канца. Працуючы над узятым для выпаўненьня мерапрыемствам, гурток павінен паставіць сабе абавязковым заданьнем дабіцца ў працы вынікаў большых, чымся тыя, якіх дасягае вёска: каб ураджай быў больш, лепш узараць поле, лепш весьці агарод.

Да практычнай працы павінна быць праведзена найбольшая падрыхтоўка. Павінен быць намечаны точны плян правядзеньня практычных мерапрыемстваў, точны разьлік, што і колькі чаго трэба гуртку для працы (насеньне, с.-г. прылады, сувязь з земаддзелам, агрономам, настаўнікам).

Важнейшая задача с.-г. гуртка—навучыць сваіх членаў працы колектыўна, паказаць, што яна карысьней за працу ў адзіночку, навучыць арганізаваць колектыўную працу. Галоўнае тут, праца на Ленінскай паласе і дзесяціне, аб'яднаньне вакол мерапрыемстваў, як: ачыстка насеньня, змаганьне з патравамі, з шкоднікамі ў садох, агародах, дапамога гуртком у працы маламоцным гаспадаркам, сувязь з працай с.-г. коопэрацыі, арцелямі, саўхозамі і г. д.

Ленінская паласа, дзесяціна павінны быць вопытна-паказальным вучасткам, на якім гурток вядзе практычную працу. Уся плошча вучастку разьбіваецца на невялічкія вучасткі-дзялянкі па ліку вопытаў—тэм, якія будзе прапрацоўваць гурток. З такіх тэм можна пералічыць наступныя: 1—значнасьць добраякаснага зерня для пасеву; 2—спосабы пасеву; 3—спосабы апрацоўкі глебы, віды папару; 4—уплыў на ўраджай розных угнаеньняў; 5—іспытаньне новых культур, кармовых траў, караньплодаў, лёну, проса і сартоў хлебных расьлін. Наогул-жа гурток павінен выбіраць тэмы (па парадзе з агрономам), больш падыходзячыя да мясцовых умоў. Ня трэба гнацца за вялікай колькасьцю тэм: лепш менш, але добра зрабіць.

Практычная праца праводзіцца на вучастку гуртка і ў сваіх гаспадарках (у полі, агародзе, садзе, дварэ), але за працу кожнага ў паасобку павінна быць колектыўная адказнасьць усяго гуртка.

Для таго, каб не рабіць усіх вопытаў усім членам гуртка кучай, трэба разьбіць гурток на групкі, каб кожная групка вяла асобны вопыт, напрыклад:



І гудуць напільнікі, і лязгочуць малаткі...

дзяўчаты—гародныя вопыты (можа быць некалькі групак па гародных вопытах), хлопцы—вопыты ў полі і г. д. Групкі разьбіваць па зацікаўленасьці членамі той ці іншай галінай гаспадаркі. Гэтыя-ж групкі могуць весьці таксама колектыўна вопыты ў сваіх гаспадарках (група паляводаў, гароднікаў, лугаводаў, садаводаў і г. д.). Праца гуртка патрабуе мэтодычнага і практычнага кіраваньня. Агро-

ном абслужыць усіх гурткоў паасобку ня можа, і таму неабходна, каб пры райполітпрасьветкомах пры цясьнейшым удзеле райкамолаў было ўтворана правядзеньне мэтодычных конфэрэнцый, задача якіх даваць патрэбныя ўказаньні гурткам, наладзіць абмен вопытам гурткоў, выпрацаваць форму вучоту працы.

Неабходна, каб за ўсё лета агроном пабыў ва ўсіх гуртках і праверыў іх працу. Наогул ва ўсёй працы с.-г. гуртка павінна быць цясьнейшая сувязь з агрономам, з перадавікамі сялянамі, комунай, саўхозам.

## „Дзень Ураджаю“ і с. г. выстаўкі.

З мэтай популярызацыі працы с.-г. гурткоў пасьля летняе працы, гурток прымае актыўны ўдзел у правядзеньні сьвята „Дню Ураджаю“ і с.-г. выставак, якія павінны зьявіцца падагульненьнем працы за лета.

Ячэйка і с.-г. гурток павінны стала падрыхтавацца да правядзеньня „Дню Ураджаю“, каб сялянства сапраўды адчувала сьвята перамогі працы і навуковых ведаў.

У дзень гэтага сьвята павінны знайсьці прымяненьне ўсе даступныя спосабы агро-пропаганды і розныя забавы: прымерныя выстаўкі, конскія бегі, лекцыі, спрэчкі-дыспуты на с.-г. тэмы, с.-г. сасьцязаньні, проба с.-г. машын, агрономічныя вечары з пастаноўкай п'ес, малюючых посьпехі гаспадаркі, концэрты, спэктаклі, зьезды, конфэрэнцыі, базары, карнавалы, абсьмейваючыя старую гаспадарку. Усё гэта павінна быць разьлічана па сілах і добра падрыхтавана.

Але лепшай агітацыяй зьявіцца паказаньне дасягненьняў с.-г. гуртка за лета і сялян перадавікоў—выстаўкі. Сельска-гаспадарчыя выстаўкі пажадана прыўрочваць да „Дню Ураджаю“. У правядзеньні выставак с.-г. гурткі павінны прыняць самы актыўны ўдзел. Перад выстаўкай комсамольская ячэйка з гуртком праводзіць па вёсках свайго сельсавету сходы з сялянствам, на якіх ставіць даклады аб працы і дасягненьнях гуртка за лета. Дасягненьні павінны быць паказаны точнымі лічбамі. На гэтых-жа сходах праводзіцца популярызацыя будучай выстаўкі, агітацыя за яе. Ячэйка і гурток дапамагаюць выставачнаму камітэту ў папаўненьні выстаўкі выставачнымі ўзорамі—экспонатамі ад сялян, а таксама выстаўленьнем сваіх узораў.

На выстаўках ня трэба гнацца за вялікім лікам экспонатаў, а старацца зрабіць так, каб выстаўка на доўга пакінула аб сабе памяць.

З гэтай мэтай трэба, напрыклад, учыніць параўнаньні на выстаўцы добрых і дрэнных абразцоў. Напрыклад: ставяцца побач два ўзоры гародніны, збожжа, жывёлы. Узоры бяруцца з дасягнутых гуртком і перадавікамі сялянамі і з сялянскага поля, агарода,—гаспадарак звычайных. Напрыклад, самая лепшая карова па ўдоі і горшая. Тут-жа плякаты, табліцы, як тлумачэньне аб гаспадарчай годнасьці выстаўленай жывёлы, альбо расьлін і інш. узораў.

Тлумачэньне аб тым, як удалося дасягнуць добрых вынікаў: як аралася поле, якое насеньне бралася, якое ўгнаеньне і г. д., як кормяцца каровы, які догляд за імі.



Да настаўніка за дапамогай.

Дзе ня будуць праводзіцца раённыя выстаўкі, там гурткі праводзяць у „Дзень Ураджаю“ выстаўкі ў сваім сельсавеце, прыцягваючы на іх таксама і сялянскія экспонаты, але лепш організаваць з агрономам раённыя выстаўкі.

На зіму гурток ня спыняе працу, а вядзе яе далей. Зімой большая ўвага зварачваецца тэорытычным заняткам і практычнай працы ў двары (догляд і кармленьне жывёлы, хаваньне зімой гародніны і г. д.), а таксама вядзецца падрыхтоўка да веснавой працы, абгаварваньне пляна веснавой працы, намячэньне практычных мерапрыемстваў і г. д.

**П. Галавач.**

# Аб летняй працы піонэр-організацыі ў вёсцы

Піонэрская організацыя вёскі цяпер перажывае перыод адгукваньня новых формаў і мэтодаў працы.

Асноўная задача прыстасаваньня зьместу працы к умовам і быту вёскі яшчэ ня вырашана, нашы дасягненьні пакуль што нязначныя.

Вельмі часта вясковы атрад цалкам пераймае працу гарадзкога, у сваёй працы замкнуты—слаба зьвязаны з піонэр-організаванымі дзецьмі, на зборах атраду ставяцца пытаньні „высокае політыкі“, якія мала цікавяць дзяцей. Летнія ўмовы працы павінны быць найбольш скарыстаны намі для зьнішчэньня азначаных недахопаў, аднак-жа працу атрада неабходна прыстасаваць к бытавым асаблівасьцям вёскі (праца на полі), якія не даюць магчымасьці сыстэматычна зьбірацца. З гэтаю мэтаю трэба найбольш скарыстаць сьвяточныя дні, на пашы, групаваньне дзяцей каля скаціны і г. д.

Асноўная задача вясковага атраду заключаецца ў тым, каб узмацніць агрономічна-выхаваўчую працу.

За час знаходжаньня піонэра ў атрадзе даць яму веды па агрономічнай пропагандзе, падрыхтаваць харошага культурнага гаспадара, які павядзе культурным спосабам сваю гаспадарку.

З гэтае прычыны гэтай працы павінна быць адведзена вялікае месца.

Разам з школаю, атрад павінен зрабіць узорны агарод, які-б даваў магчымасьць піонэрам і сялянам бачыць на практыцы прыстасаваньне парад агронома. Разам з гэтым пры першай магчымасьці кожны піонэр павінен старацца дома зрабіць узорны агарод або градку.

Гутаркі па сельскай гаспадарцы ў атрадзе толькі тады дадуць добрыя вынікі, калі піонэр будзе імкнуцца іх прыстасаваць у практычнай працы ў сваёй гаспадарцы.

У ўмовах кожнага раёну неабходна браць на сябе якую-небудзь, хоць і маленькую, задачу па агрономічнай пропагандзе, маючы на ўвазе ўсе асаблівасьці.

Посьпех гэтае працы можа быць забясьпечан, калі будзе прыцягнут агроном, будзе сувязь з зямельным аддзелам. Аб гэтым павінна паклапаціцца райбюро. Ужо цяпер трэба адну з райнарад важатых ахвяраваць спэцыяльна пытаньню сельска-гаспадарчай працы піонэраў летам, паставіць даклад агронома і пастаянна трымаць з ім сувязь.

З боку комсамольскае ячэйкі павінна быць заснована пастаянная дапамога піонэрскаму атраду ў гэтай працы, піонэры таксама могуць памагчы працы сельска-гаспадарчага гуртка пры ячэйцы.

Уся астатняя праца атрада павінна праходзіць на вольным паветры, для гэтага трэба сваячасова *падрыхтаваць (плашчадку) пляцоўку.*

Каля хаты чытальні або школы неабходна найці больш роўнае месца, абсадзіць яго дрэвамі, пабудаваць некалькі лавачак—тут павінна разгарнуцца летняя праца піонэраў.

Пляцоўка павінна быць асяродкам збораў ня толькі піонэраў, а таксама і ўсіх піонэр-організаваных дзяцей.

Піонэры ў сьвяточныя дні павінны рабіць гульні, песьні, уцягваючы ў іх і неорганізаваных дзяцей. Атрад павінен сачыць за чыстатою і даць магчымасьць іншы раз зайці дарослым сялянам.

За лета атрад павінен больш зьвязацца з малалетнімі парабкамі, трымаць з імі больш цесную сувязь і па магчымасьці старацца уцягнуць іх у свае шэрагі.

У больш доўгія сьвяты можна зрабіць збор некалькіх атрадаў, якія знаходзяцца блізка адзін ад другога—гэта будзе больш зблізіць піонэраў, будзе дапамагаць большаму ўзмацненьню працы.

Акрамя азначаных формаў, трэба практыкаваць

**Экскурсіі.**

Задача такіх экскурсій заключаецца ў вывучэньні мясцовага краю: гэта трэба зьвязваць з вывучэньнем гісторыі і экономікі Беларусі. Да гэтых часоў ня ўсе піонэры добра знаёмы з мясцовым краем, ня ведаюць, якія ў нас галоўныя „промыслы“, куды цячэ рэчка, у якой яны чуць ня кожны дзень купаюцца, незнаёмы з піонэрамі суседняе вёскі.

Праца па вывучэньні краю мае цяпер вялікае значэньне і не апошняе месца ў ёй павінны займаць піонэры.

Праводзіць экскурсіі можна ў бліжэйшы горад, вёску, лес—вывучаць, якія пароды лесу растуць найбольш каля вёскі, і г. д.

Для ўдзелу і дапамогі ў экскурсіях трэба прыцягнуць і настаўніка, ён для нас зьяўляецца добрым, каштоўным памоцнікам.

Выканаць гэтыя задачы нам удасца толькі тады, калі будзе добрае кіраўніцтва і ўвага комсамольскае ячэйкі.

Сёмы Ўсесаюзны зьезд ЛКСМ у сваіх пастановах аб чарговых задачах дзіцячага комуністычнага руху адзначыў, што *„толькі правілавае партыйнае і комсамольскае кіраўніцтва піонэрскаю працаю забясьпечвае комуністычнае выхаваньне піонэраў“*. Да гэтых часоў яшчэ ня ўсе комсамольскія ячэйкі зьвяртаюць досыць увагі працы піонэр-атраду, не заўсёды памагаюць важатаму ў яго працы, ня лічаць піонэрскую працу важнаю комсамольскаю—такое становішча пагаршае працу атраду.

Маючы на ўвазе цяжкія ўмовы працы летам для атраду, ячэйка павінна дапамагаць яго працы; на пасяджэньні бюро, на сходзе ставіць адзельныя пытаньні працы атраду; памагчы атраду цераз грамадзянскія організацыі дабіцца дапамогі, выдзеліць для правядзеньня ў атрадзе гутарак больш моцных комсамольцаў, палепшыць склад важатых.

Разам з гэтым трэба ўсяляк старацца к таму, каб азнаёміць комсамольцаў з працаю і існасьцю піонэр-організацыі: гэта дасьць магчымасьць палепшыць і ўзмацніць кіраўніцтва.

Гэткія задачы піонэраў улетку. Трэба сваячасова падрыхтавацца к іх вырашэньню.

**М. Лабадаеў.**




**Юрка Лявонны**

# Нечаканае

**Жарт у 1-й дз. з вясковага жыцьця**

*(Сюжэт апрацованы па п'есе Рыг. Бывалага).*

**Дзеючыя асобы:**

1. АПАНАС—стары селянін.
2. ГАННА—яго дачка.
3. САКОВІЧ—электратэхнік.
4. КАНДРАТ—дзядзька Ганны.
5. Першы рабочы.
6. Другі рабочы.
7, 8, 9. Вясковая моладзь.

*Дзея адбываецца ў цёмнай беларускай вёсцы—„мядзьвежым кутку".*

*Дэкорацыя—звычайны пакой у хаце. Дзьверы—адны. Абавязкова—два ложкі.*

*Канец п'есы—масавая сцэна—якая пераходзіць адразу ў концэртнае аддзяленьне.*

*Цёмна. Апанас шукае нешта па розных кутох. Ганна сядзіць у задуменьні на ложку.*

Апанас: Ганна, а Ганна! Ня чуеш... Каб ты свайго Пятрака ня чула!..

Ганна: Ну, чаго?

Апанас: Дзе ножык?..

Ганна: Які ножык?

Апанас: Жалезны! „Які"... Ды наш ножык, мой...

Ганна: Ня ведаю... Можа там. *(Ківае галавой).*

Апанас *(стаіць сярод хаты):* Няма!

Ганна: А можа ў тым куце?..

Апанас: Няма! А я пытаю, дзе нож...

Ганна: Ды што ты, бацька, прыстаў... Ня бачыла, кажу...

Апанас *(падыходзіць да яе):* Ты што гэта,—бацьку пярэчыць? А для чаго я цябе раджаў, а? Навошта паіў, карміў, а? Вядома, каб бацькава дабра пільнавала... А ты што... На маргалкі ўсё швэндаеш...

Ганна: Якія маргалкі?

Апанас: Вядома, якія... З хлопцамі перамаргіваецца... Ой, Ганна, Ганна! Як вазьму гэта я цябе за касу...

Ганна: Мяне?..

Апанас: Ды як адрэжу яе...

Ганна: У мяне?

Апанас: Ды як пачну цябе лупцаваць ёю...

Ганна: Ды што ты, бацька?

Апанас: Тады будзеш ведаць, як ад бацькі па вечарох зьбягаць... Куды хадзіла ўчора, гавары!..

Ганна: Дык я казала ўжо... У чытальню... Іншыя гульні робяць, весяляцца... А я адна ўсё... *(Усхліпвае).* Як скібачка адрэзаная... Другі раз спаткаеш дзяўчыну-комсамолку... Яна табе столькі цікавага расьпішыць...

Апанас: „Расьпішыць!" А табе што ведаць трэба? Я вось табе расьпішу!... Куды ножык падзела?

Ганна: Ды ня бачыла-ж яго!

Апанас: Ой, Ганна, Ганна! Ці не палюбоўніка сабе звала?

Ганна: Ды калі...

Апанас: Яму, напэўна, і ножык аднясла... У падарунак, значыцца. А я яму, сукінаму сыну, галаву зьнясу... Ах, ты, прападзі сьвет!... Я яму ў твар нахаркаю... Я, я...

Ганна: Ды што ты, бацька, адурэў?

Апанас: Гавары, як зваць... Гавары... А то я цябе за касу...

Ганна: Ай, ай-яй! яй! *(Бяжыць ад яго).*

Апанас *(ганяючыся):* Гавары! *(Зачапляецца аб слонец, той падае. Пад ім Апанас бачыць ножык).* Іш, ты... куды залез... Ну, ну... вылязай!.. А ты не раві там... Нечага!

Ганна: Вось заўсёды так... Накрычыць... наб'ець... А потым сам бачыць, што ні к чаму... Эх, доля мая няшчасная! Няўжо ўвесь век так прыдзецца?..

Апанас: Ну, расшчоўкалась... Кінь, кінь, Ганна! Я вось да Кандрата схаджу, ножык яму аднясу... Прасіў—курыцу яму зарэзаць трэба. Адмовіцца нельга. Чалавек ён карысны... грошай мае...

Ганна: Любоўнік! Выдумаў! Ды каму-ж я тут патрэбна? К нам ніхто і не заходзіць ніколі...

Апанас: Я пашоў, Ганна...

Ганна: Ідзі, ідзі...

Апанас: Ты... ты глядзі... Я хутка зьвярнуся!.. *(Пашоў).*

Ганна: „Глядзі!" Я і так гляжу, ды добрага ня бачу. Ні слова ласкавага ніколі... Усё ваўком гля-

дзіць... Э-эх!... *(Садзіцца на ложак і пяе: „Ой ды тучыцца, хмарыцца“..., альбо якую-небудзь інш. песьню).*

Саковіч: Эй, бабулька, давай малака!

Ганна *(спужаўшыся)*: Адкуль гэта... Якога малака?

Саковіч: Ды якога ёсьць... Цёплага, халоднага... З-пад каровы! Піць ахвота... Запарыўся!..

Ганна: Чаму-ж запарыўся?..

Саковіч: Чаму? Ад працы...

Ганна: Ад якой працы? Ты, відаць, з гораду будзеш...

Саковіч: З гораду... Тэхнік я...

Ганна: Тэ-эхнік? Чаго-ж цябе на вёску прыгнала?

Саковіч: Электрычнасьць праводзім... Асьвятленьне значыць...

Ганна: Лектрычнасьць? А з якога боку гэта?

Саковіч: Ды проста па праводу і ў хату! Ну, давай, давай малака!..

Ганна: Калі так,—дык на ўжо... Бачыш, дышыць як цяжка!

Саковіч: Даўно-б так... А то ўсё: адкуль ды з якога боку!.. *(П'е. Потым ставіць кухлік на стол і глядзіць на Ганну).*

Ганна: Ну, чаго ўставіўся?

Саковіч: Та-ак...

Ганна: Што так?

Саковіч: А то не?

Ганна: Што не?

Саковіч: Раней было не, а зараз ёсьць!

Ганна: Ды што ёсьць?

Саковіч: Вочы... Блакіт!

Ганна: Якія там вочы...

Саковіч: Ды твае... Гляджу ў іх і бачу: красавіца ты!

Ганна: А табе што, калі красавіца?

Саковіч: А на ўсякі выпадак...

Ганна: Які-там выпадак?

Саковіч: Ды вось які!.. *(Цалуе Ганну).*

Ганна: Пусьці... пусьці... Бацька прыдзе... убачыць...

Саковіч: А ўбачыць—скажу: выпіў—закусіць пажадаў! А сур'ёзны ён у цябе, відаць?

Ганна: Сур'ёзны... Вольнасьці ня любіць!..

Саковіч: Стары, напэўна... таму... зайздросна! А цябе як зваць, а?

Ганна: Ганна Апанасаўна Кіндрук!..

Саковіч: Бач ты! Што-ж, падабаюся я табе, Ганна Апанасаўна Кіндрук?

Ганна: Баюся я... З гораду ты... хітры...

Саковіч: Не, я не такі... А добра ў вас, на вёсцы, Ганулечка! Душа адпачывае! Даўно я ў палёх ня быў... Паветра чыстага ня нюхаў... А тут у вас такая вэнтыляцыя, што аж грудзі расьпірае!... Як п'яны ходзіш... Ну, ды ісьці трэба...

Ганна: Куды-так хутка?

Саковіч: Рабочых на вёсцы заставіў... Лаяцца будуць. Пабягу!..

Ганна: Вось, як заўсёды... Прыдзе хто, нарвецца на бацьку і ніколі потым... Ты хоць і не спаткаўся з бацькам, а таксама... Эх, доля мая! І ўсё адна я, сяджу бязвыходна... І нікога, хто-б зразумеў, усьцешыў...

Саковіч: Што ты, што ты, Ганна! Я-ж кажу: з першага погляду... Ну, ды хутка тут ізноў будзем: ваша хата на чарзе... Ага! Вось яшчэ... Слухай, Ганна! Ці ня можна было-б мне з старшым рабочым перанначаваць у вас?.. А то ўжо ўсіх разьмясьцілі.

Ганна: Як бацька... Ня ведаю... Яно і ў нас цесна... Тут і сьпім. Я тут, а бацька там... *(Паказвае).*

Саковіч: Ну, як-небудзь... З бацькам пагутару... А за малако—дзякую. Прабач пакуль! *(Цалуе).* Са-алодкая ты! *(Выбягае).*

Ганна: Бачыш, добра як!.. Гарадзкі толькі... Страшна... Хто яго ведае!..

Апанас *(убягае ў хату і хрысьціцца)*: Госпадзі божа наш, айцец сьвяты... абарані, пашкадуй!

Ганна: Чаго ты, тата?

Апанас: Бяда, Ганна... Бяда, дочка... Нечысьць на вёсцы завялася... Трое антыхрыстаў ходзяць... Сьвет адзкі пушчаюць. А за імі народ... Адзін з іх, кажуць, тэхнік...

Ганна: Тэхнік?.. *(Падае на калені).* Бацька! Прабач ты мяне, грэшную... нявінна я... сам...

Апанас: Што ты, Ганна! Бог з табой...

Ганна: Тут быў... Малака давала...

Апанас: Тут быў?!

Ганна: Тут...

Апанас: Малака давала?!

Ганна: Дала, татулька, дала... Ласкава так адышоў... Як закрычыць—„Давай малака!“, я і сьвету ня ўбачыла—дала...

Апанас *(ціха)*: А хвост бачыла?

Ганна: Які хвост?

Апанас: Абнакнавенны... Звычайны, значыцца... Чартоўскі.

Ганна: Не... ня бачыла...

Апанас: Паджаў, значыць... А ты таго... Глядзі, калі што!..

Ганна: Чаго таго?

Апанас: Ды гэтага... Не цалавалася з ім?.. З ім, значыць...

Ганна: Бацька... *(Потым перадумаўшы).* Не, што ты?!

Апанас: Ну, глядзі... Задушу, калі з нячыстым зьвязалася... Слухай, Ганна... Тушы капцілку і лажыся... Прыдзе хто, стукаць будзе—ані славечка!.. Чуеш?..

Ганна: Тата!..

Апанас: Чаго табе?

Ганна: А ты-б сюды лёг...

Апанас: Навошта гэта?..

Ганна: Ён хітры... Бес гэты... Дык каб ашукаць яго... А то ён наперад усё ведае...

Апанас: І гэта справа... *(Кладзецца на месца Ганны).*

*(Ганна тушыць капцілку і лажыцца).*

Апанас: Ганна!

Ганна: Ну, чаго?

Апанас: Дзьверы не зачынены... Ідзі зашчапі...

Ганна: Баюся я, татка...

Апанас: А ты ня бойся!..

Ганна: Баюся... Зачыні ты...

Апанас: Стары я, ня ўбачу...

Ганна: Яно, мажа і лепш... Не зачыніўшыся... А то падумаюць—запёрліся там... стукаць... Ламаць пачнуць...

Апанас: І гэта разумна!.. *(Маўчаць).* Ганна!..

Ганна: Чаго табе?

Апанас: А шмат малака выпіў чорт гэты?..

Ганна: Амаль цэлы кухлік...

Апанас: Бачыш ты! А грошай даў?..

Ганна: Не... не даваў...

Апанас: Ня даў? Эх, і чорта некаштоўнага прынясло к нам,—галадранца!... А яны—чэрці багатыя бываюць! Ціш-шшш.. Слухай, Ганна... Нехта йдзе... Госпадзі божа наш...

Саковіч *(уваходзе)*: Фу-ты, цемень якая... Ганна!.. Сьпяць напэўна. Ганна... Ганулька!.. Хату абмерыць трэба!.. Сыпіць... Ну, што-ж... разбуджу яе... пацалую... *(Цалуе)*. Ах, ты... барада... Далі бог, барада!..

Апанас: Паймаў, паймаў!.. Ах ты, нячыстая сіла! Не, ня выврнешся... ня пушчу!

Саковіч: Пусьці, чорт! Ашалеў, ці што?.. Пусьці...

Апанас: Паймаў, паймаў!.. Ганна, памажы... А-а! Паджаў хвост!?

Ганна: Матка боска, езус сьвяты...

Саковіч: Ратуйце... ратуйце... прападаю!..

*(Увальваецца натоўп з Кандратам)*.

Кандрат: Апанас, чаго гэта ў цябе цёмна? Няўжо спаць лёг?.. Эй, пасьвяці хто... *(Успыхіваюць запалкі)*.

Кандрат: Што гэта? Некага давяць...

Саковіч: Ратуйце...Дзядзька насеў...задушыць...

Кандрат: Ды гэта, здаецца, тэхнік... Апанас, пускай яго... Што ты?..

І-й рабочы: Гвозд ёсьць?

ІІ-і: Тут... нашчупаў!..

Кандрат: А ну, рабяткі, давай сьвету, давай хутчэй!..

ІІ-і рабочы: Накручвай шнур.

І-ы: Гатова! *(У хаце загараецца электр. лямпачка)*.

Апанас: Вось табе і на!.. *(Пускае Саковіча)*.

Кандрат: Што ты, браток, тэхніка давіць, а? *(У натоўпе—„Ого-го-го! Дзядзька Апанас!..")*.

Саковіч: Вось балда!.. Задушыць хацеў... Палічыў за чорта!

Апанас: Ды што тут... Я, вось, гаварыць жадаю... *(Да натоўпу)*. Скажэце мне, людцы, ці чэрці яны усё-ткі, ці людзі сапраўдныя?

Кандрат: Людзі, браток, людзі... З гораду... Электратэхнікі... Сьвет праводзяць... У мяне першага засьвяцілі...

Апанас *(Саковічу)*: Бачу цяпер... сіла ў табе... Прабач мяне, старога... А дзеўку маю—ня гань; ня руш ты яе... Адна яна ў мяне...

Саковіч: Што ты, дзед Апанас?.. У мяне і думкі такой ня было... Ну, спадабалася мне дачка твая... *(Ганна падыходзіць бліжэй)*. Ды навошта доўга размаўляць!?. Замуж яе хочу ўзяць... За сябе, значыць... Рукі прашу, як кажуць... Разумееш?.. Пойдзеш, Ганна?

Ганна: І-іх, жаданы!.. А не жартуеш?

Апанас: Не сьмяешся?

Саковіч: Не, усур'ёз... Чаго там...

Кандрат: Вось гэта справа і мне падабаецца... Гэта для Ганны жаніх! А калі на тое пашло, дык на першае падтрыманьне мы і ў кішэні пашукаем... Зараз-жа, на радасьцях, вечар невялічкі зробім!... Эй, хто прымае ўдзел?—На сцэну!.. Адказны кіраўнік—Саковіч! Слухай каманду! *(Да Апанаса)*. А ножык твой, браток, ні граша не каштуе... Курыцу баба мая тапаром засекла!.. *(Тут Саковіч можа выйсьці наперад і крыкнуць: „Антракт 5 хвілін", альбо концэрт пачынаць адразу. Пры гэтым, вядома, Кандрат і Апанас адыходзяць у зад сцэны)*.

## Прасьпяваў-бы і я кіпарысы

Ул. Дубоўку

Прасьпяваў-бы і я кіпарысы
Крыму цёплага, мора гульбу,
але-ж я, апроч Случкае рэчкі,
больш нічога ня бачыў, ня чуў.

Незнаёмы мне подыхі поўдня
і аблічча каўкаскіх гор,
Іх прывабнасьць, гарачы погляд
для мяне—бязбунтоўны віхор.

Як ні думай і як ні старайся
выпіць сокі таго хараства,
але мабыць ня будзеш гарачым,
як ні ўладжвайся мары сnаваць.

Калі так—не палезу далёка
і ня буду узносіць на ўздым;
ды навошта пра тое галёкаць,
што ў вачох расплывае, як дым?

Калі так, дык навее мне гесьню
лес кудравы, заводы, палі,
бо іх змалку у сэрцы я песьціў,
і чуцьці агнём палкім паліў.

А надалей, дык мо' давядзецца
Крым пабачыць—сухотаў прытон;
ну, тады беласьнежнаю грэчкай
пэўна й мой забруіцца загон.

Вось тады дык напэўна сазендар
на чануры й тары і зурне
з гарачым, паўднёвым натхненьнем
заграе, утне й для мяне.

Случ. **Відук.**

# Вясковая моладзь пра сваю часопісь

## На ласышчы хапае, а на часопісь—не.

*(В. Караваева, Сьмілавіцкі р., Меншчына).*

— Хлопцы, ці ня можаце вы паказаць мне апошні нумар часопісі „М. А.“,—зьвяртаюся я да комсамольцаў в. Караваева.

— Які такі „М. А.“? Мы-ж яго ня выпісваем.

— Як так? Вас 7 комсамольцаў у вёсцы і ні адзін з вас ня выпісвае свае роднае часопісі? Што за прычына гэтаму?

— А бачыш—„фінансаў нет“,—адказваюць яны мне.

Ну што-ж, думаю, калі ўжо такія „бедныя“, што нават і 15 кап. на часопісь „М. А.“ не агораюць, дык нічога ня зробіш. Адно-ж быў гэта я адзін раз у Рудзенску ля коопэратыву. Гляджу—і вачом ня веру. Адзін з „бедных“ смокча цукерку, другі арэхі кусае, трэці гарбузікі і г. д.

Ну, думаю сабе: вось дык комсамольцы. На ласышчы грошы знаходзяць, а каб выпісаць часопісь „М. А.“ дык „няма грошай“.

Сорамна, т. т. комсамольцы, так адносіцца да друку.

Падцягнецеся!

З. Б.

## Даёш „Маладыя Араты“ тыднёваю часопісьсю.

Калі я ўбачыў першы раз „Малады Араты“, то я вельмі зьдзівіўся, што ў Беларусі ёсьць такая часопісь комсамольскай моладзі. Першы раз „Малады Араты“ мне вельмі спадабаўся, і цяпер я ўжо сачу за кожным нумарам часопісі. У Гомельшчыне вядома, што „Малады Араты“ яшчэ не пранік у гушчу моладзі, але ён таксама цікавіць некаторую частку моладзі—тую, якая ўжо хоць крыху знаёма з беларускай мовай. Трэба адзначыць, што зьмест і малюнкі „Маладога Аратага“—здавальняючыя. Малюнкі, вокладкі вельмі прыгожыя, а таксама і малюнкі ва ўсёй часопісі. Вершы і апавяданьні ня дрэнныя, а некаторыя асабіста харошыя. Старонка сялянскай моладзі яшчэ, на мой погляд, ня ўсе бакі сялянскай працы ахапляе.

Але на гэта трэба зьвярнуць увагу юнкорам, якія запаўняюць гэты куток. Частушкі іншыя хварэюць, і на іх зьмест трэба зьвярнуць увагу. Паштовая скрынка „Маладога Аратага“ хаця і названа—перапіска з нашымі супрацоўнікамі, рэзка адказвае пачынаючым пісаць вершы ці інш., якія не падыходзяць да друку. „Малады Араты“ вельмі цікавая часопісь, толькі трэба яе выпушчаць адзін раз у тыдзень.

М. Карпачоў.



Актывістыя-супрацоўнікі „Маладога Аратага“ т. т. Фядосцаў і Шпілеўскі.

## Вызавы

Выпісваю сваю родную часопісь „Малады Араты“ на 4 месяцы—вызываю гэта самае зрабіць наступных т. т.: Тарановіч (Семежаўская яч. КСМ) Вантовіча, Варвашэня, Дарожка, Эпштэйна (Чырвона-Слабодзк. райком ЛКСМ), Салцэвіча (Слуцкі акружком КСМ).

М. Шпілеўскі.

Я, Фядосцаў Алесь, выпісваю на тры месяцы нашу сялянскую часопісь „М. А.“ і выклікаю гэта-ж зрабіць наступных т. т.: 1) Бравага Антона, 2) Тарасенку Васіля, 3) Бравага Васіля, 4) Пазнякову Матрону, 5) Барышэнку Зьмітрака, 6) Ісачэнку Міколу, 7) Сундукова Сьцяпана, 8) Шупакова Піліпа, 9) Азохава Максіма і 10) Міронава Піліпа.

А. Фядосцаў.

## Паштовая скрынка

**С. Законьнікаву.** Допіс „Комсамол у вёсцы“—агульныя разважаньні. Напішы лепей конкрэтнымі фактамі: як працуе ваша комсамольская ячэйка, як ідзе рост яе, які ўдзел прымае ў грамадзянскім жыцьці вёскі.

**Міх. Куткоўскаму.** Ты пішаш, што „сход прашоў вельмі добра“. З прысланага допісу гэтага ня відаць. Мала напісаць парадак дню, а трэба напісаць, як абгаварваліся, вырашаліся пытаньні комсамольскай працы. Допіс ня пойдзе. Пішы болей. Чакаем грунтоўных допісаў.

**Сабяседніку.** „Здарэньне на вайне“—дробязь. Друкавацца ня будзе.

**Алесю** „Спрэчкі трэба кінуць“—падай аб гэтым у вашую насьценную газэту.

**Дзядзю Міцю** Допіс „Прымерны комсамолец“—ня пойдзе. Трэба пісаць поўны адрас; пісаць трэба на адным баку паперы і чытэльна.

**„Вясёлы Кысымы“.** Фэльетон „Работніца“—ня пойдзе. Слаба напісан. Чытай апавяданьні Кузьмы Чорнага, Крапівы і прыгожае пісьменства. Вучыся, пішы, будзем друкаваць.

Рэдактары: Іл. Барашка. Д. Ратнэр.

Менск, 1-ая дзярж. друк. Зак. № 2879. Галоўлітбел № 18298.

*(Працяг апавяданьня „Зьмітрукоў Васіль з Котчына“).*

— Ведама, пойдзем у хату-чытальню!..— пачулася многа галасоў:—дзеля чаго-ж яна зроблена?!

І з таго часу займаліся ў хаце-чытальні.

Сельска-гаспадарчы гурток колькасьцю 25 чалавек зладзілі...

Кіраваў Зьмітрукоў Васіль.

Займаліся кожны тыдзень па суботах...

У вадзін вечар ужо можа з гадзіну займаліся.

Зразу з вечара моладзь па кутох цёрлася, і дзьверы бразгалі, то адчыняючыся, то зачыняючыся.

А пасьля пачалі разыходзіцца, і ў хаце-чытальні ўтварылася мёртвая цішыня.

Толькі рэха ад Васілёвай гутаркі зьвінела і гублялася ў змроку чорнае ночы, што так пільна пазірала праз вокны на гурток сялян.

На сьценках правадыры рэволюцыі пераглядаліся задумёнымі вачыма; плякаты распаўзаліся па сьценках; лямпа, ухапіўшыся драцянаю рукою за пацёс, раскідала ціхі сьвет...

А слухачы ўжо патаміліся. Гарнула да адпачынку. Некаторыя пацягваліся, хаўкалі ва ўвесь рот і паглядвалі на дзьверы. Ужо ў некаторых вочы пачалі зьліпацца соннаю пялушкаю.

Вось-вось пачуецца:

— Ну, хлапцы, на сягоньня годзі; пойдзем да хаты!..

Раптам дзьверы адчыніліся. Усе азірнуліся. А ў парозе стаяў Хвядос. Губы сьмешкаю корпіць...

— Якім чынам?..

— А так, зусім проста: вучыцца хачу, вось што; у гурток ваш запісацца...

— Гура!..—закрычалі гурткоўцы.

— Качаць яго!..—прапанаваў хтось з гуртка.

Да самага пацёсу падлятаў Хвядос, ажно валасы, як трасянка на вілах, матыляліся.

Выкрыкі „гура!..“, гульлівы рогат моладзі, шамканьне дзядзькоў зьліліся ў агульную гармонію і палохалі лямпу ды ноч у вокнах.

А Хвядос, падлятаючы да пацёсу, ва ўвесь рот абдаваў усьмешкаю сваю кудлатую бараду.

— Гура!.. Гура!..—і ў гэтых гуках чуўся пахаронны марш котчынскай цемры.

V

Прытулілася вёска Котчын над крывуляю-крынічкай. Крынічка гэта зацягнулася журбою і цэпкімі расьлінамі. Але ў самай вёсцы ранейшае журбы ня было.

Па зялёнаму выгану пасьліся, што зубры, каровы з вымямі-вёдрамі. На палёх, дзе калісьці на вузенькіх загончыках з жыта высаджвалі галавы пушыстыя бадакі ды хаваліся чартапалохавыя межы, ляжалі кліны сталёвай пшаніцы, жыта. Зелянела картапляньне; кучкі канюшыны, нібы полк салдат, віталі сонейка; сэрадэля бляяхцела па ўсяму кліну за рэчкаю...

У вёсцы хаты мураваныя спаткаліся; школа аб двух паверхах здалёк кідалася ў вочы; у некалькіх гумнах машыны бурчалі...

Зусім новая вёска... А ўсяго пяць год прашло, як Зьмітрукоў сын Васіль—чырвонаармеец зрабіў пачынак ўсяму гэтаму.

— А сам Васіль?..

— Ого!.. У яго цяпер калом галавы не дастанеш: ён, брат, старшынёю райвыканкому!.. Старшынёю сельсавету быў, а два гады назад абралі ў райвыканком...

— Цікава?

— Але!

**П. Гарбацэвіч.**

# ЗЬМЕСТ

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫОДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ

ВЫДАВЕЦТВА

## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ДА КАНЦА 1926 ГОДУ

### „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ГАЗЭТА

Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц 25 кап. На 6 мес. 1 р. 50 к.
На 3 м-цы 75 кап. На 1 год 3 р. — к.

Гарантыруецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.

### ЮНГЕР АРБЭЙТЭР

ГАЗЭТА

яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка.

Орган Яўрэйскай Сэкцыі ЦК ЛКСМБ

На сваіх старонках асьвятляе жыцьцё яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка, налічвае вялікі лік уласных дапісчыкаў, зьмяшчае на сваіх старонках кіраўнічы матэрыял. Выходзіць штотыдзень.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц 15 кап. На 6 мес. — р. 90 к.
На 3 м-цы 45 кап. На 1 год 1 р. 80 к.

Яўрэйская моладзь павінна чытаць „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“.

### ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

ЦІ ЧЫТАЕЦЕ

ДВУХТЫДНЁВУЮ ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

## „МАЛАДЫ АРАТЫ“

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб політыцы. Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“— праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае парады сялянскай моладзі, у каго вывучыцца, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—вядзе барацьбу за новую вёску, змагаецца з усімі дрэн. бакамі жыцьця вёскі.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—для сялянскай моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаныя з працаю вёскі

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

„МАЛАДЫ АРАТЫ“—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“, так і інш.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ з дасылкаю да хаты.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| на 1 месяц | 15 к. | на 6 месяц. | 90 к. |
| на 3 месяцы | 45 к. | на 1 год | 1 р. 80 к. |

Падпіска на ўсе выданьні прымаецца ў Менску—канторай выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, на мясцох: вылучанымі ўпоўнаважнымі друку пры кожнай комсамольскай ячэйцы, агентамі выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі

**АДРАС РЭДАКЦЫІ ЎСІХ ПАМЯНЁНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ:**

Менск, Комсамольская, 25. ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

